**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№32(644)**
**9 жніўня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

## Упершыню ў гісторыі Глыбокага яго ўраджэнка стала прызёрам Алімпіяды!

**1 жніўня 2012 года Марына Шкерманкова, 22-гадовая глыбачанка заваявала бронзавы медаль у цяжкой атлетыцы на Алімпійскіх гульнях у Лондане.**



Фота з сайта daylife.com



*Лучайскі фэст. Урачыстасць у гонар святой Ганны. Забаўляльная частка фэсту.* Фота А.Мікуса і А. Мацура. *Працяг тэмы на стар. 5.*

## Былы дырэктар Глыбоцкай птушкафабрыкі падазраецца ў вымантачванні крэдыту ў суме больш Br2 млрд.

**Колішні дырэктар адкрытага акцыянернага грамадства «Глыбоцкая птушкафабрыка», а цяпер дэпутат сельсавета падазраецца ў вымантачванні крэдыту.**

У адносінах да яго расследуецца крымінальная справа па ч.2 арт.237 КК Рэспублікі Беларусь, паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова, перадае БЕЛТА.

Працуючы на пасадзе дырэктара птушкафабрыкі, з'яўляючыся службовай асобай, валодаючы правам заключэння і падпісання крэдытных дамоў, у лістападзе 2010 года з мэтай атрымання кароткатэрміновага крэдыту, ён даў указанні галоўнаму бухгалтару скласці для падавання ў аддзяленне ААТ «Белаграпрамбанк» г. Глыбокае загадзя лжывыя дакументы – дамову на пастаўку збожжа і падаў яе ў якасці закладу маёмасных правоў. У выніку чаго банкам былі выдадзены крэдытныя грашовыя сродкі ў суме больш Br2 млрд. Такім чынам, у выніку дзеянняў службовай асобы прычынены ўрон ў выглядзе незвароту крэдытных грашовых сродкаў у асабліва буйным памеры.

Заходзячы з таго, штопадазраваны знаходзіцца ў статусе дэпутата, то крымінальная справа па матэрыялах праверкі Глыбоцкага МА УДФР КДК Рэспублікі Беларусь узбуджана пракуратурай Глыбоцкага раёна. Для арганізацыі поўнага і аб'ектыўнага расследавання яна была накіравана ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь. У наш час следчыя высвятляюць усе акалічнасці злачынства.

Падаванне індывідуальным прадпрымальнікам ці службовай асобай загадзя лжывых дакументаў для атрымання дзяржаўнага мэтавага крэдыту, якія пацягнулі прычыненне ўрону ў асабліва буйным памеры, караецца абмежаваннем волі на тэрмін ад двух да пяці гадоў ці пазбаўленнем волі на той жа тэрмін.

*БЕЛТА.*

## Докшыцкі раён

# Па адпрацаванай схеме

■ Чэслаў Якубовіч

**У адпаведнасці з зацверджаным графікам, працягваецца ў краіне парламенцкая выбарчая кампанія і напрыканцы ліпеня стала вядома, што ў Віцебскай вобласці будзе сёлета каля трох прэтэндэнтаў на дэпутацкае крэсла.**

Тым часам акруговая выбарчая камісія Докшыцкай выбарчай акругі № 22 зарэгістравала ініцыятыўную групу па зборы подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку вылучэння кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі пятага склікання яе цяперашняга старшыню Уладзіміра Андрэйчанку. На папярэдніх выбарах ён упэўнена выйграў галасаванне па Глыбоцкай акрузе і абяцаў тады глыбачанам садзейнічаць пабудаваць у іх горадзе Лядовы палац. Такі каток у Глыбокім не з'явіўся, што дало злым языкам гаварыць аб падставе, чаму ліквідавалі выбарчую акругу ў адным з буйнейшых рэгіёнаў Віцебшчыны. Нагадаем, што ў свой час У. П. Андрэйчанка на працягу 14 гадоў запар працаваў на пасадзе старшыні Віцебскага аблвыканкама і ўстанавіў своеасаблівы нацыянальны рэкорд па знаходжанні ў губернатарскім крэсле. Але ён не пажадаў зноў балатавацца на новых выбарах ні ў сваім родным Лёзненскім раёне, ні ў ніводнай з чатырох выбрачых акругах горада Віцебска, дзе працяглы час жыў і працаваў. Крыху абдзеленымі пачуваюць сябе і жыхары Браслаўскага і Пастаўскага раёнаў, у якіх не знайшлося дастойных мясцовых кандыдатаў у дэпутаты парламента. Па Шаркоўшчынскай акрузе № 29 яўным фаварытам выбараў будзе "прахадны кандыдат" 54-гадовы старшыня мясцовага райвыканкама Мечыслаў Морхат. Канкурэнцыю яму вырашыў скласці 62-гадовы экс-кандыдат у прэзідэнты Віктар Цярэшчанка, эканамічны дарадца са сталіцы бізнес-саюза прадпрымальнікаў і наёмнікаў імя прафесара М. Куняўскага.




## Пастаўскі раён

# Свята з сумам у вачах

■ Станіслаў Раманчук

**Вельмі маштабныя задачы вырашала апошняя Дзяржаўная праграма адраджэння і развіцця беларускай вёскі, аднак удалося стварыць больш тысячы толькі так званых аграгарадкоў.**

А вось па суседстве з імі сельская мясцовасць пакрыху вымірае і наўрад ці каму ўдасца спыніць гэты сумны працэс. Аб гэтым міжволі ўсім думалася, калі сонечным летнім днём праходзіла традыцыйнае свята вёскі Цівунцы Пастаўскага раёна. На гэты раз абышлося без надакучлівага раней дажджу, але настрой у прысутных быў крыху сумна-настальгічным, хоць і радаваліся вяскоўцы, што сабраліся разам. Іх прыехаў духоўна падтрымаць мясцовы святар, ксёндз мясцовага касцёла св. Тадэвуша Мікалай Ліпскі. У момант свайго росквіту і перадачы з Глыбоцкага суседняму раёну ў Цівунцах пражывала каля трохсот чалавек і налічвалася нават 67 двароў. Размяшчалася вёска ў бойкім, вельмі прыгожым месцы, усяго ў 4-х кіламетрах ад гарпасёлка Варапаева. Тады жылося хоць і няпроста, але весела, бегалі вясковыя хлопцы і дзяўчаты ў шыкоўны Дом культуры ў суседнім Старым Двары. Адной вялікай дружнай сям'ёй гулялі на вяселлях, хрэсьбінах, провадах у армію. Зараз у паселішчы жыхароў жменька, практычна адны старыя жанчыны, а прыезд нават гарадскіх унукаў – рэдкая падзея. Да ўсіх праблем бянтэжыць, што ніяк не можа аднавіць працу мясцовы магазін з-за адсутнасці прадаўца, цяжка стала вяскоўцам нарыхтоўваць дровы і сена. Але яны ў той дзень нібыта памаладзелі: і цудоўны канцэрт арганізавалі з дапамогай сельсавета, і прадоўжылі сваё свята ( хоць раз на год ) за адным вялікім сталом.

## Глыбоцкі раён

# За шуміхай неразбярыха

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ за савецкім часам смяяліся наконт панаваўшых тады метадаў сацыялістычнага планавання і гаспадарання і здачы аб'ектаў раней тэрміну да пэўных рэвалюцыйных дат.**

Нічога ў нас практычна не змянілася і ў навейшай гісторыі, калі кіраўнік дзяржавы даручыў правесці сёлета рэканструкцыю па адной ў кожнай гаспадарцы малочнатаварнай фермы. Справа гэта, канешне, патрэбная, вось толькі вырашаць яе трэба ў адпаведнасці з рэальнымі магчымасцямі. Таму падчас сваёй чарговай інспекцыйнай паездкі старшыня Камітэта дзяржкантролю Беларусі Аляксандр Якабсон устроіў разнос у Глыбоцкім раёне мясцовым кіраўнікам за ўбачанае на будаўнічых пляцоўках. Толькі ў сельгасфіліяле мясакамбіната "Каралі" рэальна да 1 верасня здаць у эксплуатацыю абноўленую ферму. А вось у сельгаспрадпрыемствах "Ломашы-Агра" і "Стрынадкі", якія наведаў галоўны дзяржкантралёр краіны, існуе пагроза, як і на шэрагу іншых ферм рэгіёна, не здаць іх у вызначаны час і нават да канца года. На месцах не хапае рабочых рук, фінансавых рэсурсаў, зноў праектная дакументацыя (як раней на аграгарадкі) рабілася ў аўральным рэжыме. У выніку шмат дзе атрымаецца, што хацелі, як лепей, а выйдзе, як заўсёды. На дапамогу вяскоўцам прыслалі больш паўсотні студэнтаў з будатрадаў. Акрамя ўсяго ў райцэнтры вялікі фронт работ трэба выканаць і па падрыхтоўцы да Дня беларускага пісьменства, прыспела гарачая пара жніва і паспец усюды проста нерэальна, але высокае начальства думае інакш…

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 09.08.12 | | | | Пятніца 10.08.12 | | | | Субота 11.08.12 | | | | Нядзеля 12.08.12 | | | | Пнд.13.08.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +15 | +21 | +16 | +12 | +15 | +19 | +17 | +12 | +15 | +17 | +15 | +11 | +14 | +18 | +16 | +12 | +14 | +17 |
| Ціск | 748 | 749 | 748 | 748 | 748 | 747 | 746 | 746 | 747 | 747 | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 748 | 746 | 745 | 743 |
| Вільготнасць | 89 | 72 | 46 | 65 | 92 | 77 | 55 | 71 | 94 | 82 | 72 | 73 | 93 | 87 | 71 | 77 | 96 | 82 | 85 |
| Вецер м/сек | 4 З | 5 З | 4 З | 2 Ю-З | 2 Ю-З | 1 З | 2 Ю-В | 2 Ю-В | 2 С-В | 5 С-В | 5 С-В | 3 С-В | 3 С | 5 С | 4 С | 3 С | 5 С-В | 7 С-В | 6 С-В |

# Лічба нумара

**50** метраў – на такой максімальна магчымай малой вышыні, па дадзеных розных СМІ, у сярэднім быццам незаконна парушыў паветраную граніцу Беларусі ў пачатку ліпеня лёгкі паршнявы самалёт Jodel D 113. Аднак з гэтай нагоды беларускія грамадзяне дагэтуль не атрымалі дакладных звестак, ці сапраўды раніцай 4 ліпеня двое шведаў ажыццявілі свой цяпер знакаміты "Мядзвежы дэсант". Праўда, прэс-служба літоўскай арміі першай прызнала афіцыйна факт парушэння паветранай прасторы сваёй краіны і пачала службовае расследванне.

А вось наша Міністэрства абароны РБ катэгарычна спачатку абвергла гэту падзею і назвала змешчанае ў Інтэрнэце відэа фальшыўкай. Потым і сам камандуючы беларускімі войскамі ВПС і СПА генерал-маёр Д. Пахмелкін заявіў, што яго падначаленыя не зафіксавалі вадобнага факту перасячэння дзяржаўнай граніцы лёгкаматорным самалётам. У развіццё далейшых падзей бок вайскоўцаў узяў і беларускі кіраўнік, які ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды нават 44 службоўцам у пагонах, якія адказваюць за забеспячэнне аховы паветранай прасторы Беларусі.

Як бы там ні было, а рэальна ў масавай свядомасці прасунутай часткі грамадства, якое сябруе рэгулярна з Інтэрнетам, засталося тое, што боегатоўнасць беларускай арміі – гэта сапраўдны міф. Мы можам праводзіць пампезныя ваенныя парады, а пры гэтым за 3 апошнія гады краіна страціла 5 дарагіх баявых самалётаў і 8 лётчыкаўасаў авіяцыі. І невыпадкова неўзабаве пачалася маштабная праверка гэтых часцей спецыялістамі прэзідэнцкай Службы бяспекі і ваеннымі. З цягам часу стала відавочна, што шведы ўсё ж прыляталі ў Беларусь і выявілі відавочныя праблемы айчыннай сістэмы супрацьпаветранай абароны.

Аб гэтым сведчыць факт узбуджэння крымінальнай справы аб незаконным перасячэнні дзяржаўнай мяжы РБ арганізаванай групай асобаў. Па ёй пасля вобыску на здымнай кватэры КДБ затрымала студэнта 4-га курса Інстытута журналістыкі БДУ Антона Сурапіна, які першым размясціў у Інтэрнеце эксклюзіўныя фота маленькіх чорных пакетаў з плюшавымі лялькамі з лозунгамі аб патрабаваннях свабоды слова ў РБ. Узнік сапраўдны міжнародны скандал, бо і многія жыхары Івянца бачылі, як над іх гарпасёлкам кружыў маленькі самалёт. Адна з мясцовых жанчын не пабаялася расказаць аб гэтым журналістам расійскага Першага тэлеканала і гэты сюжэт расіяне, а не беларусы з-за існуючай цэнзуры, убачылі.

Зараз нават не важна, як змог шведскі малады пілот Томас Мазетці са сваёй сяброўкай Лінай Фрэй на працягу 1 гадзіны і 20 хвілін палятаць без дазволу над беларускімі гарадамі і вёскамі і над ускраінай Мінска. Праблема ў тым, што ва ўсім свеце складана наяўнымі сродкамі сістэм СПА выявіць лятаючыя апараты на звышмалой вышыні з-за рэльефу мясцовасці. Пры дапамозе радараў, па ацэнках спецыялістаў, немагчыма выявіць сучасны лёгкі самалёт альбо дэльтаплан, які ляціць на вышыні да 50 метраў над зямлёй.

Таму нашай краіне патрэбна не гонар мундзіра абараняць, а думаць аб тым, як лепш кардынальна абараніць сваю паветраную сістэму і найперш будуемую паблізу сваёй дзяржграніцы Астравецкую АЭС ад розных тэрарыстаў і крылатых ракет на малой вышыні. Цяпер тэхнічны прагрэс дазваляе такім лятальным апаратам і беспілотным самалётам лятаць на малой вышыні нават да 20 метраў у аўтаматычным рэжыме і свабодна агібаць рэльефы мясцовасці і несці кіруемыя авіяцыйныя бомбы, падрыўныя устройствы.

Аднак абнадзейвае, што у беларускіх ваенных вучоных ужо ёсць распрацоўкі ў гэтай галіне і яны распрацавалі акустасейсмічныя датчыкі. Такія прыборы могуць на далёкай адлегласці выяўляць шумы матораў лёгкаматорных апаратаў, як і ў гэтага шведскага самалёта коштам 20 тысяч еўра. На працягу 3-5 бліжэйшых гадоў яны могуць з'явіцца на ўзбраенні айчыннай арміі, а пакуль прызнаем, што і мы атрымалі свайго Маціяса Руста ў асобе двух шведаў. Скандынавы, дарэчы, разумныя людзі і выбралі для свайго палёта менавіта 4 ліпеня, калі пасля традыцыйнага пахмелля пасля Дня незалежнасці шанцаў незаўважна праскочыць у Беларусь у іх сапраўды было болей і гэта акцыя шведам удалася.

## Дзень за днём

**На фоне роста цэн на складах прадпрыемстваў у Беларусі скапілася ўжо 243 % сярэднямесячных аб'ёмаў выраблёнай прадукцыі. Расія выдзеліла такі крэдыт на 10 мільярдаў долараў на пабудову атамнай электрастанцыі ў Астраўцы. Нягледзячы на канфуз са шведскім самалётам, А. Лукашэнка ўзнагародзіў ордэнамі і медалямі 44 камандзіраў і афіцэраў войскаў супрацьпаветранай абароны Беларусі. Да парламенцкіх выбараў улады Мінска яшчэ раз паабяцалі зноў вярнуць студэнтам бясплатны праезд. Беларусаў усё болей адвучваюць атрымоўваць інфармацыю на роднай мове, бо толькі 8,5 % кніг у РБ выдаюцца па-беларуску.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя**. Рэжым Б. Асада страчвае кантроль над краінай, сірыйскім паўстанцам удалося з мінімальнымі баямі ўзяць пад свой кантроль дзяржаўныя межы з Турцыяй і Іракам.

**Ізраіль.** Спецслужбы краіны абвінавацілі Іран у актыўнай дапамозе арганізацыі тэракту ў міжнародным аэрапорце Бургаса ў Балгарыі, які забраў жыцці 7 чалавек, 34 былі паранены.

**Расія.** Спецслужбы краіны кінулі на раскрыццё замаху вахабітаў на муфтыя Татарстана і на забойства яго намесніка, святары выступалі супраць занадта агрэсіўных ісламістаў.

**Бельгія.** Еўракамісар ЕС па пытаннях добрасуседства Ш. Фюле пацвердзіў, што Еўропа гатова да новых санкцый да Беларусі, калі там прадоўжаць наступленне на дэмакратыю.

**КНДР.** Ва ўзросце 28 гадоў у самай закрытай і напоўгалоднай краіне свету Кім Чэн Ын стаў маршалам, ён узначаліў дзяржаву толькі летась у снежні пасля смерці свайго бацькі.

**Англія.** На прайшоўшым авіясалоне "Фарнбора" двум вядучым авіябудаўнічым фірмам свету Airbus і Boeing удалося прадаць 511 самалётаў на суму больш 50 млрд. долараў.

**ЗША.** У краіне абвясцілі жалобу пасля расстрэлу 14 чалавек на прэм'еры фільма пра Бэтмена ў горадзе Аўрора ў штаце Каларада і ранення амаль 40 чалавек, шмат дзяцей.

**Літва.** Кіраўнік урада А. Кубілюс заявіў, што здзіўляюць заявы Беларусі наконт арышту быццам літоўскіх шпіёнаў, але мы не збіраемся рэагаваць на іх падобнымі метадамі.

**Расія.** Расійскі прэзідэнт У. Пуцін больш чым на 3 гадзіны спазніўся на сустрэчу ў Крыме з украінскім калегам з-за сяброў-байкераў, з украінцамі шмат праблем з-за кошту газу.

**Украіна.** Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў незаконным арышт і асуджэнне былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Луцэнкі і спагнаў з краіны 15 тысяч еўра.

**Лівія.** Новыя ўлады краіны даставілі на радзіму з Туніса і змясцілі ў турму ў сталіцы Трыпалі былога прэм'ер-міністра Багдадзі Аль-Махмудзі, куды ён уцёк 10 месяцаў назад.

**Малдова.** Парламент краіны сваім законам забараніў савецкую і фашысцкую сімволіку таталітарнага часу, за яе выкарыстанне будзе пагражаць штраф у суме да тысячы долараў.

**Швецыя.** Шведскі пілот Пэр Кромвель зноў адказаў дзяржаўным СМІ і ваенным Беларусі выстаўленнем у Інтэрнэт відэа 90-хвіліннага свайго палёту на лёгкаматорным самалёце.

**Украіна.** У Нацыянальным пантэоне пахавалі Героя Украіны, народнага артыста СССР Багдана Ступку, які памёр на 71-м годзе жыцця пасля працяглай цяжкай хваробы.

**Францыя.** Пры спробе ўзыходжання летам на гару Мон-Модзі вышынёй 4465 метраў ад снежнай лавіны загінулі 9 альпіністаў, цудам выжылі чацвёра іспанцаў і англічан.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** Новы расійскі прэм'ер Д. Мядзведзеў аднаназначна выказаўся за хутчэйшую прыватызацыю "Беларуськалію", інакш прыгразіў разабрацца з нафтакантрабандай з Беларусі

**Мінск.** Экс-начальнік сакратарыяту Савета Рэспублікі 37-гадовы Г. Бядрыцкі папрасіў А. Лукашэнку вызваліць яго ад крымінальнай адказнасці і кампенсаваў прычынены ўрон.

**Пінск.** Адразу 150 рабочых завода шпону і мэблі "Пінскдрэва" выйшлі ў знак пратэсту з дзяржпрафсаюзу пасля атрымання імі апошняй летняй мізэрнай здзеклівай зарплаты.

**Вілейка.** Літоўская фірма Norfa Norfos набыла ў райцэнтры зямельны ўчастак, каб пабудаваць тут свой сучасны завод па перапрацоўцы гароднiны, бо ў РБ гэта танней.

**Магілёў.** З-за зношанасці абсталявання і неэфектыўнага ўпраўлення вытворчасцю поўнасцю абанкроціўся завод напіткаў "Вейнянская крыніца", запушчаны яшчэ ў 1994 г.

**Гродна.** З-за меркаванняў асабістай бяспекі з'ехаў за граніцу ўслед за братам з "Алмаза" капітан міліцыі з 15-гадовым стажам службы С. Макар і папрасіў прытулку на Захадзе.

**Маладзечна.** Магутны лівень затапіў цэнтр горада, каля новага магазіна "Еўраопт" вада размыла тратуары і разбурыла пакладзеную плітку, пашкодзіла прыпынак, Палац культуры

**Узда.** Пракуратура Мінскай вобласці распачала справу супраць былога 1-га намесніка старшыні райвыканкама М. Крукоўскага за крадзёж нібыта будматэрыялаў на 800 тысяч.

**Бабруйск.** Абласны суд пакараў 3 гадамі пазбаўлення волі былога сакратара гарсуда, якая мела доступ да спраў і за грошы прапаноўвала родным злачынцаў аблегчыць іх лёс.

**Гомель.** Адзінокая ветэран вайны, франтавая медсястра Марыя Сазоненкава ахвяравала 25 млн. рублёў сваіх зберажэнняў на новы ваенны музей у Мінску і 13 млн. – на новую АЭС.

**Ветка.** Пракуратура завяла крымінальную справу на аднаго са старшынь сельсаветаў за прысваенне 5 млн. рублёў, якія былі выдзелены на добраўпарадкаванне сельскіх могілак.

**Нясвіж.** А. Лукашэнка распарадзіўся аб тым, каб для беларусаў былі даступныя ўваходныя білеты на наведванне тут адроджанага палаца-паркавага ансамбля Радзівілаў.

**Бабруйск.** Усяго праз 2 тыдні пасля выхаду на свабоду з турмы за крадзяжы і разбой 31-гадовы гараджанін забіў нажом падчас выпіўкі свайго 68-гадовага суседа падчас спрэчкі.

**Навагрудак.** У райцэнтры адмянілі традыцыйны рыцарскі фестываль сярэднявечнай культуры і пачалі часткова ламаць старажытныя будынкі да абласных "Дажынак".

**Мінск.** Старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Беларусі прафесар Віктар Камянкоў правёў прэзентацыю сваёй другой напісанай кнігі "Біблія аб сям'і" накладам 1 тысяча экз.

# У Беларусі з 1 жніўня павышаюцца пенсіі, дапамогі і БПМ



■ БЕЛТА

**У Беларусі з 1 жніўня гэтага года павялічваюцца пенсіі, паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Валерый Кавалькоў.**

Пераразлік працоўных пенсій вырабяць зыходзячы з сярэдняй зарплаты працаўнікоў за другі квартал. Па дадзеных Белстата, яна склала 3,52 млн рублёў, што на 17,1% вышэй пakaзчыку, які ўжывалі пры пераразліку пенсій у траўні.

Такім чынам, працоўныя пенсіі (пры вылічэнні якіх не ўжываецца бюджэт мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва) са жніўня павялічацца на 17,1%, паведамілі ў мінпрацы, перадае БЕЛТА.

У жніўні вырабяць пераразлік і мінімальных працоўных і сацыяльных пенсій, надбавак, падвышэнняў да пенсій і даплат людзям старэйшых узростаў у сувязі з ростам БПМ. Сацыяльныя пенсіі, надбаўкі і падвышэнні павялічацца на 13,6%.

З улікам новага БПМ даплаты да пенсій непрацоўных пенсіянераў са жніўня складуць для дасягнуўшых узросту 75 гадоў - 158,2 тыс. (75% мінімальнага памеру пенсіі па ўзросце), 80 гадоў - 211 тыс. (100%). У цэлым сярэдняя пенсія па ўзросце вырасце на 16,8% - да 1,72 млн рублёў.

Як сказаў Валерый Кавалькоў, у 2012 годзе пераразлік пенсій вырабяць яшчэ і з лістапада.

**БПМ і дзіцячыя дапаможнікі выраступь на 13,6%**

У Беларусі пастановай Рады Міністраў №698 ад 27 ліпеня цяперашняга года зацверджаны новы бюджэт пражытковага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, і са жніўня ён складзе 843,87 тыс. рублёў. Новы БПМ павялічыўся на 13,6% да нарматыва, які дзейнічаў з 1 траўня па 31 ліпеня.

Для працаздольнага насельніцтва БПМ будзе 923,32 тыс., для пенсіянераў - 697,28 тыс., для дзяцей да трох гадоў - 707,75 тыс., для дзяцей ад трох да шасці гадоў - 890,46 тыс. , для дзяцей ад шасці да 18 гадоў - 949,9 тыс., для дзяцей-студэнтаў - 855,28 тыс.

Адпаведна новаму БПМ на 13,6% са жніўня вырастуць памеры дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.

У жніўні-кастрычніку гэтага года штомесячная дапамога па догляду за дзіцем да трох гадоў складзе 843,87 тыс. рублёў, з надбаўкай 75% - 1,48 млн, з надбаўкай 40% - 1,18 млн. Штомесячная дапамога на догляду за дзіцем старэй трох гадоў будзе 421,94 тыс., з надбаўкай 40% - 590,71 тыс. Аднанасовая дапамога ў сувязі з нараджэннем першага дзіцяці са жніўня павялічыцца да 8,44 млн рублёў, пры нараджэнні другога і наступных дзяцей - 11,81 млн. Аднаразовая дапамога жанчыне,якая стала на ўлік у дзяржарганізацыі ахоўы здароўя да 12-тыднёвага тэрміна цяжарнасці, са жніўня складзе 843,87 тыс. рублёў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Да пачатку жніва гаспадаркі вобласці атрымалі яшчэ 80 новых камбайнаў КЗС-1218 "Гомсельмаша", запусцілі 9 сучасных зернесушылак, уборка сёлета напружаная.

**Глыбокае.** Упершыню на парламенцкіх выбарах не будзе Глыбоцкай № 22 і Пастаўскай № 29 выбарчых акруг, якія адышлі да Докшыц і Шаркаўшчыны па прапанове ўлад вобласці.

**Докшыцы.** Былы кіраўнік вобласці, спікер парламента У. Андрэйчанка зарэгістраваў тут сваю ініцыятыўную групу па паўторным перавыбранні ў Палату прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь.

**Мёры.** На тэрыторыі раёна за 6 гадоў запланавалі пабудаваць яшчэ адзін металургічны завод РБ на 200 тысяч тон металапрадукцыі штогод, ён створыць 50 новых рабочых месц.

**Лёзна.** Пасля капітальнага рамонту коштам звыш 2 млрд. рублёў зноў запрацаваў мясцовы льнозавод, практычна ўвесь ураджай на плошчы 904 гектары прыбіў да зямлі ўраган.

**Полацк.** З нажавымі ранамі цела трапіў у бальніцу таксіст-прадпрымальнік, на якога напаў вечарам у салоне каля вёскі Тросна невядомы і сілай забраў 460 тысяч рублёў.

**Орша.** З-за 6 бутэлек віна ў вёсцы Баяры вечарам двое падпітых пастухоў з суседняй вёскі Барздоўка забілі нажом 73-гадовую гаспадыню дома, а яе мужу перарэзалі горла.

**Глыбокае.** Райаддзел Следчага камітэта РБ распачаў новую справу супраць лідара "Маладзёжнага фронту" З. Дашкевіча за "злоснае непадпарадкаванне ўладам калоніі".

**Бешанковічы.** У двух вёсках раёна забілі 2-х жанчын ва ўзросце 44 і 46 гадоў, адну з іх збіў да смерці сужыцель, другую – п'яны сусед у сваёй хаце падчас спрэчкі на падпітку.

**Наваполацк.** З-за атрыманай траўмы міжпазваночнай грыжы прапусціў Лонданскую Алімпіяду сярэбраны прызёр гульняў у Пекіне кідальнік молата Вадзім Дзевятоўскі.

**Талачын.** Моцна п'яны веласіпедыст днём каля гарадскога стадыёна наляцеў на сустрэчнай паласе на іншамарку, упаў і разбіў лабавое шкло, з траўмамі трапіў у бальніцу.

**Віцебск.** Пасля 19 гадоў дзейнасці ў горадзе зачыніўся адзіны ў Беларусі музей прыватных калекцый, прыгожы стары будынак 19 стагоддзя спатрэбіўся ўладам для іншых мэтаў.

**Глыбокае.** У райцэнтры на прадстаячы Дзень беларускага пісьменства акрамя бронзавых знакамітых землякоў з'явіцца і скульптура "Паўлінка", завяршылі рамонт будынка РДК.

**Віцебск.** У сваёй манеры А. Лукашэнка параўнаў фестываль мастацтваў "Славянскі базар" з "астраўком вольнадумства, незалежнасці", які быццам апярэджвае нават Алімпіяду.

**Полацк.** На прыгожым возеры паблізу вёскі Азіна прайшоў чарговы адкрыты чэмпіянат Полацкага раёна па лоўлі ракоў. У рэгіёне праводзяцца таксама і туры грыбнікоў, ягаднікаў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Першы беларускі медаль на Алімпіядзе заваявала глыбачанка!



**Марына Шкерманкова.** *Фота БелТА.*

■ **Кастусь Шыталь**

**Марына Шкерманкова, 22-гадовая глыбачанка 1 жніўня 2012 года. заваявала бронзавы медаль у цяжкой атлетыцы на Алімпійскіх гульнях у Лондане Першы беларускі медаль на сёлетніх Алімпійскіх гульнях у Лондане заваявала глыбачанка Марына Шкерманкова. Сёння, 1 жніўня, яна атрымала бронзу ў цяжкой атлетыцы ў вазе да 69 кілаграмаў.**

Гэта гістарычная падзея для нашага горада. Ніколі раней глыбачане не атрымлівалі медалёў на Алімпіядзе.

«Пакуль што не ўсведамляю, што адбылося. Але вельмі ўзрадаваная, што так склаліся абставіны. Задаволеная вынікам», - распавяла Марына карэспандэнту спартовай газеты «Прэсбол».

Марына сказала, што прысвячае поспех на Алімпіядзе сваім бацькам - Івану Іванавічу і Святлане Анатольеўне. Бацькі Марыны жывуць у Глыбокім на Камуністычнай вуліцы, працуюць на малочнакансервавым камбінаце.

«Ну… з Богам…» — такі статус стаіць у Марыны на яе старонцы «Укантакце». Яна, дарэчы, заходзіла на яе ў той дзень — незадоўга перад выхадам на памост.

Марына ў свае 22 гады — адна з наймацнейшых беларускіх штангістак і аўтарка двух нацыянальных рэкордаў.

Марына нарадзілася 9 красавіка 1990 года ў Глыбокім. Хадзіла ў 2-ю школу, пакуль не паехала ў вучэльню алімпійскага рэзерву.

Шкерманкова — двухразовая чэмпіёнка Еўропы сярод юніёраў (2009, 2010), срэбны прызёр маладзёвага чэмпіянату Еўропы-2009, бронзавы прызёр маладзёвага чэмпіянату Еўропы-2011.

У гэтай вагавай катэгорыі Беларусь, апроч Шкерманковай, прэзентавала і Дзіна Сазанавец. У першым практыкаванні — рыўку — беларускі па чарзе ўзялі вагу 108 і 113 кілаграмаў. Затым Дзіна здолела зафіксаваць 115 кілаграмаў, а Марына зрабіла няўдалую спробу падняць 117. Такім чынам Сазанавец мела 2-і вынік. Шкерманкова пасля рыўка была на 5-м месцы.

У штуршку Дзіна Сазанавец 136 кг з першай спробы не ўзяла, але ўзяла з другой, і ў трэцім падыходзе ўзяла 141 — 256 кілаграмаў у агульнай суме.

Столькі ж паказала і Марына Шкерманкова (135, 140 і 143), але з-за таго што яна лягчэйшая за Дзіну, яе вынік стаў трэцім. Сазанавец — на 4-м месцы.

Румынка Раксана Даніэла Чочас, якая ў суме ўзняла столькі ж, але важыць меней за беларусак, заваявала срэбра. А чацверты залаты медаль для сваёй зборнай выйграла прадстаўніца КНДР Рым Джон Сім.



**Святлана Анатольеўна, маці Марыны Шкерманковай.**

Святлана Анатольеўна прызнаецца, што не хацела, каб дачка займалася цяжкой атлетыкай. Аднак Марына была ўпартая і дасягнула вялікіх поспехаў у гэтым відзе спорту.

«Думаю, мы прыйдзем і да золата», – кажа Святлана Шкерманкова.

*Фота Яўгена Самсонава.*

# Кнігі жалю і святла



**Прэзентацыя кніг М Баравік** *Фота Івана Зайца*

■ **Марыя Новікава**

**У канцы ліпеня паэтка Марыя Баравік прэзентавала ў Падсвільскай бібліятэцы кнігі “Камень смутку” і “Прымі, душа, таямніцу”.**

Пра “Камень смутку” яна сказала: “Гэтая кніжка – свабода болю, споведзь душы ў жалобе па мужу. Нахлынуў, заліў усё ўнутры, смутак па чалавеку, які быў у лёсавай бядзе і не выбраўся з яе. І другая душа (я) аказалася бездапаможнай. Прыйшоў магутны жаль, але праз яго прыйшло і святло.

*І дзякуй – шлях былы не агрубеў.*

*І, мабыць, гэта нам наканаванне:*

*Табе – мяне ж ударыць развітаннем,*

*А мне – малітвай промніць за цябе.*

Некаму ж дадзена прыйсці да прасветласці, веры і малітвы. Для перамянення, для думкі і слова, што “жыццё – дзень сённяшні”. Будучыня – мара чалавечая. І чалавеку трэба так мала – любіць і множыць любоў у бліжнім. А найперш у самім сабе: да бліжняга (“Чуйце адзін аднаго”, “жыццё – час падзення знічкі”) бо жыццё дадзена для росту душы і пазнання Бога. А мы яго часта грэшна трацім.”

Кніга “Прымі, душа, таямніцу” на першы погляд камусьці магла падацца рэлігійнай, але гэта не так. У ёй сапраўды ёсць вершымалітвы, і Бог паўстае як суразмоўца, да якога звернута пытанне і разважанне Марыі Баравік. Але гэта хутчэй пошук адказаў у сабе, “рэнтген” свайго сумлення. “Мая душа адкрытая да веры, да лагічнага, жывога Бога. Няпраўда, што розум не ўдзельнічае тут. Бо разумная душа здагадваецца, выяўляе праз асабістых лёс. Яна павінна быць уважлівай. Плача заўсёды ў нашай душы Бог любові. Таму прымі, душа, таямніцу!”—так паэтка ахарактарызавала сутнасць гэтай кнігі.

Слухалі Марыю Баравік і выступалі з водгукам на кнігу і яе творчасць чытачы бібліятэкі, сябры суполкі ТБМ і пісьменніца Вольга Іпатава.

Марыя Баравік вельмі ўдзячная выдаўцам – Яраславу Берніковічу, Зміцеру Лупачу, Таццяне Смоткінай – рэдакцыі рэкламнай газеты “Прэфект-інфо”. У Год Кнігі, у Глыбокім, яны найранней і адзіныя, выпусцілі ў свет кнігі Марыі.

# На «Дажынках» у Маладзечне кралі мільярдамі

**Камітэт дзяржкантролю апублікаваў вынікі маштабнай праверкі.**

На падрыхтоўку і правядзенне фестывалю «Дажынкі-2011» у Маладзечне было выдаткавана 822,8 мільярда рублёў. За апошнія пяць гадоў гэта адно з самых дарагіх святаў ураджаю. Як выявіла праверка КДК, з гэтай сумы 7,6 мільярда было выкарыстана неэфектыўна, а асваенне яшчэ 6,6 мільярдаў прызналі незаконным або нямэтавым.

Па выніках праверкі да адказнасці прыцягнулі 131 службовую асобу. Былі распачатыя дзве крымінальныя справы за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі і за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць.

Гэтыя лічбы сталі вядомыя на калегіі КДК Мінскай вобласці.

Што яшчэ выявіла праверка? Дзяржкантроль так і не адшукаў агульнага каштарысу працаў па падрыхтоўцы і правядзенні фестывалю. Як вынік, праз нясвоечасовае фінансаванне многія аб'екты не адрамантавалі нават праз паўгода пасля правядзення «Дажынак». А да некаторых раней запланаваных работ рукі не дайшлі ўвогуле.

Найбольш у выкрадanні грошай адзначыліся службовыя асобы ААТ «Будтрэст №3 Ордэна Кастрычніцкай рэвалюцыі».

Прыдуманая імі схема аплаты арэнды жылля для супрацоўнікаў трэста прынесла ім незаконныя прыбыткі ў памеры каля паўмільярда рублёў — з выдзеленых на аплату жылля 494,2 мільёна рублёў да ўладальнікаў кватэр дайшло толькі 39,6.

Ахвярамі нядбайнасці будаўнікоў сталі жыхары 141 кватэры: у 28 дамах рамонт дахаў зацягнуўся на некалькі месяцаў. Увесь гэты час яны былі не абароненыя ад дажджоў. Тады чытач «НН» з Маладзечна апісаў, якім чынам адбываўся рамонт на вуліцы Вялікі Гасцінец. Ён даслаў некалькі дзясяткаў фота заваленых будаўнічым друзам двароў, затопленых падчас дажджу кватэр.

***Сямён Печанко, «Наша Ніва».***

# Разведзеная пенсіянерка са Смаргоні, збіраючыся звязаць сваё жыццё з «высокапастаўленым амерыканскім ваенным», пазбавілася буйной сумы грошай

**Смаргонскі раённы аддзел Следчага камітэта Беларусі праводзіць расследаванне незвычайнага махлярства. Справа распачата па ч. 3 арт. 209 Крымінальнага кодэкса (махлярства, учыненае ў буйным памеры).**

Як паведаміў БелаПАН афіцыйны прадстаўнік упраўлення СК па Гродзенскай вобласці Сяргей Шаршаневіч, спекулюючы на пачуццях разведзенай пенсіянеркі са Смаргоні 1956 года нараджэння, невядомы зламыснік выкраў буйную суму грошай. Знаёмства завязаў праз інтэрнэт. Назваўся высокапастаўленым амерыканскім ваенным, героем афганскай вайны ў складзе міратворчых сіл.

Пасля таго, як выклікаў да сябе прыхільнасць жанчыны, заявіў, што падчас апошняй спецаперацыі ў Афганістане стаў уладальнікам рукзака з доларамі. І гэтыя грошы ён хоча перадаць ёй для наступнага сумеснага жыцця, бо пасля выхаду ў адстаўку мае намер зрабіць прапанову рукі і сэрца. Аднак у сувязі з тым, што атрымаў раненне ў нагу, сам не прыедзе, перадасць валюту праз кур'ера.

Неўзабаве жанчына атрымала паведамленне, у якім гаварылася аб тым, што кур'ера затрымалі на кіеўскай мытні з-за грошай, якія ён перавозіў. Каб адпусцілі, патрабуюцца адкупныя ў суме 3.200 долараў ЗША. Даверлівая беларуска папалася на гэтую хітрасць махляра і пералічыла патрэбную суму праз плацежную сістэму Western Union.

У мэтах раскрыцця злачынства праводзіцца шэраг аператыўна-следчых дзеянняў сумесна з органамі ўнутраных спраў, у прыватнасці аддзелам па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій абласнога УУС. Даручэнне аб аказанні прававой дапамогі будзе накіравана ў праваахоўныя органы Украіны.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*

# Лучайскі фэст – the best!






Фаер-шоу на фоне лучайскага касцёла.

■ **Іна Сняжкова,**

*Фота А.Мікуса і А. Мацура*

**Для лучайскай парафіі Ганна больш, чым жаночае імя. Гэта сімвал светлага духоўнага свята, якое штогод збірае разам мясцовых жыхароў і шматлікіх гасцей. Сёлета ўрачыстасць у гонар святой Ганны адбылася 28 ліпеня і падаравала прысутным асабліва шмат станоўчых эмоцый — праграма свята была надзвычай насычанай.**

Калі звярнуцца да гісторыі, то, аказваецца, святую Ганну ўшаноўвалі ўжо ў VI стагоддзі. У 555 годзе ў Канстанцінопалі быў пабudаваны храм у гонар святой. Паўсюдным жа ўшанаванне святой Ганны стала ў XIII-XIV стст. (паводле КЭ).

Для вернікаў Ганна — узор і прыклад духоўнага, рэлігійнага выхавання. Святая Ганна і Яўхім выхавалі Панну Марыю настолькі, што яна змагла прыняць Духа Святога. Яна — узор бабулі і маці, якая навучыла вернасці, адказнасці, працалюбству.

Фэст святой Ганны ў Лучаі традыцыйна пачаўся са святой імшы, у якой прынялі ўдзел сотні вернікаў з самых розных парафій. Столькі каталікоў у касцёле св. Юды Тадэвуша ў Лучаі сустрэнеш нячаста, акрамя галоўных літургічных святаў – усяго тры разы на год, калі праходзяць адпустовыя ўрачыстасці ў гонар святых Андрэя Баболі, Ганны і Тадэвуша.

Святую імшу ўзначаліў мясцовы ксёндз Мікалай Ліпскі, бралі ў ёй удзел і прыезжыя святары з Сянно і Дунілавіч. Чакалі на фэст і вядомага на ўсю Беларусь пробашча мінскага “Чырвонага касцёла” Уладзіслава Завальнюка, але па незалежных ад яго абставінах зрабіць гэта не атрымалася. “Нагод завітаць у Лучай наперадзе яшчэ шмат, і лучайскія вернікі з ім яшчэ абавязкова сустрэнуцца”, — упэўнены кс. Мікалай Ліпскі.

Пасля святой імшы адбылося асвячэнне чарговых новых барэльефаў, якія ствараюць унікальнае Евангелле ў абразах вакол святыні. Размяшчаюцца яны ва ўжо існуючых нішах агароджы вакол касцёла, “узрост” якой налічвае каля трохсот гадоў. Усяго плануецца ствараць больш за шэсцьдзясят барэльефаў, каля паловы з іх ужо гатовыя. Іх выканаўца — мастак з-пад Мінска Леў Аганаў.

Барэльефы не адзіныя “новабудоўлі” на тэрыторыі старажытнага касцёла. Адна за адной тут з’яўляюцца велічныя скульптуры каталіцкіх святых, радуе вока і сэрца новая капліца св. Францішка, дэкаратыўная кампазіцыя з вадаёмам і макетам панскага палаца ў Лучаі, які быў знішчаны падчас Вялікай Айчыннай вайны. Мяркуючы па колькасці будаўнічых матэрыялаў на тэрыторыі касцёла, добраўпарадкаванне тэрыторыі яшчэ далёка не закончана.

Пасля асвячэння барэльефаў адбылася насычаная святочная праграма з “Лучайскімі пачастункамі”, забавамі, “Вёскай майстроў”. Яркай аказалася музычная частка фэста — свае песні прысутным падаравалі работнікі Навасёлкаўскага Дома культуры, а таксама папулярныя беларускія гурты “Небасхіл”, “Recha” і “N.R.M.” Дарэчы, падобныя канцэрты для Лучая — з’ява прывычная. Кожны месяц, пачынаючы з красавіка гэтага года, тут праходзяць выступленні вядомых музыкантаў. Запланаваны яны і надалей — ажно да студзеня наступнага года.

Упершыню адбылося сёлета ў Лучаі фаер-шоу, якое арганізавалі запрошаныя госці з Мінска. Закончыўся фэст яркім салютам над касцёлам.

Ужо хутка — 5 жніўня — у касцёле св. Юды Тадэвуша адбудзецца новае свята, якое арганізуе кс. Мікалай Ліпскі з нагоды свайго юбілею. У гэты дзень упершыню прагучыць нядаўна напісаны гімн Лучаю да 470-годдзя гэтай мясцовасці, які, упэўнена, з часам стане неад’емным сімвалам парафіі. Таксама запланаваны канцэрт і іншыя святочныя мерапрыемствы. Пачатак — у 16.30. Лучай ізноў запрашае!








Андрусь Такінданг і гурт «Рэха»

# “Мая хата з краю”

**Алесь Гай,**
*г. Глыбокае.*

Было некалькі зваротаў у рэдакцыю “Вольнага Глыбокага” і да мяне асабіста бацькоў і маці, чые дзеці наведваюць дзіцячы садочак №3, які знаходзіцца ў мікрараёне вуліцы Міра. Бацькі і маці скардзяцца на тое, што ў дождж ні пад’ехаць, ні падысці да садзіка немагчыма, асабліва вясной і восенню. Пытаюся ў маладой маці, ці звярталіся да Вашага дэпутата? Адказ: не. Звярталіся ў ЖКГ? Адказ: не. Звярталіся да раённай улады? Не. Вось так!

Працягваю далей. Дык напішыце хоць якую-небудзь скаргу! Цікавы час пайшоў. Кожны хоча, каб нехта іншы напісаў, каб хтосьці нешта патрабаваў. Каб улада пабудавала агароджу, каб улада пафарбавала гэтую агароджу. Каб работнікі ЖКГ у двары пасадзілі кветкі, памылі пад’езд. Каб “Вольнае Глыбокае” надрукавала крытычны артыкул. Людзі, апамятайцеся! Пад законнай скаргай баіцеся паставіць свой подпіс? Чаму і каго вы баіцеся? Вельмі ўжо хочацца ўсё зрабіць чужымі рукамі.

”Вольнае Глыбокае” – не дзяржаўны орган, які можа прыняць якое рашэнне. Альбо вы думаеце, што “Вольнае Глыбокае” сваім невялікім штатам пабудуе вам тратуарную дарожку да садзіка?

Аўтар гэтага артыкула выказаў сваю думку.

А цяпер да самой справы. Сапраўды, вясной і восенню, асабліва ў дождж, да садка №3 ні праехаць, ні прайсці, асабліва з боку вуліцы Міра.

Справа вось у чым. Яшчэ ў мінулым годзе работнікі ЖКГ з боку вуліцы Міра ад самой кацельні прыкладна да дома №18 памянялі цеплатрасу на новыя трубы. Пачалі гэтую работу ў пачатку лета, а закончылі перад самым ацяпляльным сезонам. Сорамна было назіраць за гэтай работай. Нейкіх 200 м цеплатрасы мянялі амаль 5 месяцаў. Разрылі ў бок садзіка і тут жа забыліся. Прапалі на некалькі дзён работнікі, а калі з’яўляліся, дык добра, калі ў дзень мянялі метраў 5-10 труб. Прычына ў тым, што якраз цеплатраса праходзіла пад дарогай, якая вядзе з вуліцы Міра да садка №3. Самае страшнае становішча было ў мінулым годзе. Сапраўды, ні праехаць, ні прайсці. Восенню неяк засыпалі гэтую трасу, дзе пяском, а большасць глінай. Зімой яшчэ неяк можна было прайсці. А вясной што было - цяжка ўявіць усё гэта. Магчыма, пашкодзілі ці зусім засыпалі дрэнаж. Першым прыйшло гора жыльцам дома па вуліцы Міра, 4. Пасля дажджу вада затапіла пад’езды. Вады было ў пад’ездах да 40см. З большага нешта зроблена. Але і зараз у дождж цяжка прайсці да садзіка №3.

Адна маці вельмі абуралася: “Вось у цэнтры горада ўсё робіцца, а тут - нейкіх 200 метраў - і што, нельга пракласці тратуар з вуліцы Міра да садзіка?”

І сапраўды, не такія ўжо і вялікія затраты, каб зрабіць тратуарную дарожку да садзіка.

Паважаныя бацькі і маці, “Вольнае Глыбокае” выконвае Вашу просьбу, друкуе артыкул на Ваш зварот.

Цяпер будзем чакаць, ад каго гэта залежыць і калі будзе пабудавана тратуарная дарожка да садзіка №3.


Дарога да садзіка №3. Праезд закрыты!


Выпаў дождж – лужы! *Фота Ул. Скрабатуна.*

## Бронзавая прызёрка Алімпіяды ў Лондане Марына Шкерманкова перадала 50 мільёнаў рублёў Віцебскаму ДВАР падчас акцыі «Алімпійскі выбар»

**Бронзавая прызёрка Алімпіяды ў Лондане беларуская цяжкаатлетка Марына Шкерманкова перадала 50 мільёнаў рублёў Віцебскаму дзяржаўнаму вучылішчу алімпійскага рэзерву падчас акцыі «Алімпійскі выбар», паведамляе афіцыйны сайт Прэзідэнцкага спартыўнага клуба (ПСК).**

Менавіта ў гэтай навучальнай установе Шкерманкова рабіла свае першыя крокі ў цяжкай атлетыцы.

Нагадаем, у межах праекта «Алімпійскі выбар», які ПСК рэалізуе пры падтрымцы Нацыянальнага алімпійскага камітэта і Міністэрства спорту і турызму, кожны чэмпіён і прызёр Гульняў мае права выбраць дзіцяча-юнацкую спартыўную школу, якой Прэзідэнцкі спартыўны клуб акажа безвыплатную спонсарскую дапамогу.

Сума дапамогі залежыць ад выніку спартсмена: за трэцяе месца — 50 мільёнаў рублёў, за другое — 75 мільёнаў, за першае — 100 мільёнаў.

*Аляксандр Ванковіч, БелаПАН.*

## У Крулеўшчыне – суцэльны бардак?

**Кастусь Шыталь**

**Калі я пішу на сайце *Westki.info* нешта крытычнае пра Докшыцкі раён, нехта абавязкова напіша каментар. Маўляў, Шыталь нічога не ўмее рабіць, а толькі крытыкуе ды яшчэ атрымлівае за гэта грошы з Захаду.**

Хачу, аднак, звярнуць увагу невядомых каментатараў на публікацыю ў “правільнай” газеце, якая друкуецца не на сродкі замежных фундатараў, а за грошы дзяржаўнага бюджэту і мясцовых падпісчыкаў.

Газета докшыцкага райвыканкама “Родныя вытокі” ў нумары 60 за 28 ліпеня надрукавала рэпартаж з Крулеўшчыны. Карэспандэнтка Тамара Альшэўская і фатограф Вячаслаў Чарвінскі прадставілі Крулеўшчыну як занядбанае мястэчка, што патанае ў сметніках і пустазеллі.

Газета піша, што абапал крулеўшчынскіх вуліц раскінуліся зараснікі дзядоўніку, смецце ляжыць кучамі каля чыгункі, а на клумбе каля канторы нафтабазы расце лебяда. Старшыня сельсавета і кіраўнікі прадпрыемстваў зусім не клапоцяцца пра добраўпарадкаванне. І толькі на заводзе, які перапрацоўвае торф, чысціня і парадак, цвітуць кветкі і абкошаная трава каля дарогі.

Мяне часта называюць “апазіцыйным журналістам” (хоць я лічу гэтае словазлучэнне недарэчным). Аднак я ніколі не напісаў бы так пра Крулеўшчыну!

Я нарадзіўся ў Крулеўшчыне і жыў там да 2005 года. За сем год, што прайшлі пасля майго ад’езду, мястэчка напаткала шмат зменаў. Многія будынкі адрамантаваныя і пафарбаваныя, на галоўных вуліцах пакладзены новы асфальт. Адчыніліся некалькі новых прыватных крамаў. Дабудаваныя і асвечаныя царква і касцёл, пастаўленыя новыя крыжы на ўездах у Крулеўшчыну.

Не буду ацэньваць (бо не ведаю), наколькі вялікая ва ўсім гэтым заслуга сельсавецкіх чыноўнікаў і начальнікаў прадпрыемстваў. Але, канечне, развіццё Крулеўшчыны адбываецца не без іх удзелу.

Але Тамара Альшэўская не напісала пра гэта аніводнага слова!

Канечне, пісаць пра адмоўныя моманты трэба. На многіх вуліцах сапраўды няма добрай дарогі, і пустазелле сам-там буяе, і лебяда каля нафтабазнай канторы не ў фоташопе намаляваная. Ёсць спадзяванне, што трапіўшы аднойчы пад увагу прэсы, адказныя асобы паклапоцяцца, каб так не сталася другі раз.

Але пісаць пра Крулеўшчыну як пра суцэльны бардак – неаб’ектыўна і несправядліва.

Гэтак можна пакрыўдзіць людзей, якія стараюцца, каб Крулеўшчына была чыстай і прыгожай. Перакананы, што ёсць такія і сярод начальства, і сярод працоўных, і сярод уладальнікаў прыватных дамоў.

Трэба звярнуць увагу, што рэпартаж напісаны падчас гэтак званага дня сельсавета. Вы, можа, не ведаеце, што такое “дзень сельсавета” ў Докшыцкім раёне? Гэта такі дзень, калі ўвесь сельсавет трасецца ад страху, бо старшыня райвыканкама Алег Пінчук можа прыйсці ў любую ўстанову, зачапіцца за любую дробязь і пачаць “жастачайшую” размову.

*“Вялікую занепакоенасць у кіраўніка раёна выклікала становішча спраў з навядзеннем парадку на зямлі, добраўпарадкаваннем Крулеўшчыны і іншых вёсак рэгіёна”*, – напісана ў публікацыі.

Не сумняюся – калі б спадар Пінчук не выказаў “занепакоенасці”, “Родныя вытокі” напісалі б, што ўсё цудоўна.

## Запрашаем на святую крыніцу!

11 жніўня 2012 года а 10-й гадзіне ў Пастаўскім р-не адбудзецца Вадасвятны малебен на крыніцы св. Вялікапакутніка і Лекара Панцеляймона.

**Маршрут:** Глыбокае-Станелевічы-Ласіца-Крывое і яшчэ 500 метраў налева.

## «Хляўчукі знаходзяцца ў здавальняючым стане і зносу не падлягаюць»... Дык заваліліся самі

**Ул. Скрабатун**

**Жыхары дамоў №№ 24, 26, 28 на вул. Леніна ў Глыбокім, дзе жыве шмат пенсіянераў, а таксама некалькі інвалідаў, спадзяваліся, што іхняе жыллё будзе падключанае на цэнтральнага ацяплення. Сама ж цеплатраса ўжо пракладзеная УП ЖКГ.**

Аднак падключэнне дамоў да цепламагістралі ўласнікі жылля павінныя былі выканаць сваім коштам. Жыхары адмовіліся. У сувязі з гэтым Глыбоцкі райвынкам прыняў рашэнне аб уключэнні вышэйзгаданых дамоў у план мадэрнізацыі жылога фонду на 2015-2017 гг.

Але ж да 2015-2017 гг яшчэ трэба дажыць. Цепліць і надалей печкі 3-5 гадоў. Гэта значыць, трэба мець хляўчукі для захавання дроў і торфабрыкету.

Глыбоцкі РВК на калектыўны запыт жыхароў даў адказ: «Хлявы, якія пабудаваныя без адпаведнага дазволу каля дамоў №№ 24, 26, 28 на вул. Леніна ў г. Глыбокае, якія ў цяперашні час знаходзяцца ў аварыйным стане, падлягаюць зносу. Хлявы, якія пабудаваныя на законных падставах і знаходзяцца ў здавальняючым стане, зносу не падлягаюць».

Пікантнасць сітуацыі заключаецца ў тым, што якраз у аднаго хлява, які пабудаваны на законных падставах, 6 жніўня абвалілася сцяна і жыхары баяцца наблізіцца да яго, каб не быць пахаванымі ў крушні з цэглы пры далейшых магчымых абвалах. А вось хлявы, якія пабудаваныя незаконна – як стаялі, так і стаяць. Не развальваюцца.

Але гэта яшчэ не ўсё. Аказваецца, у адказе з ЖКГ на запыт сп-ні Радзевіч В.Я., напісана: «Рамонт хлявоў праводзіцца не будзе, так як яны не знаходзяцца на балансе УП ЖКГ Глыбоцкага раёна».

Сёння (7.08), калі вярстаецца нумар, павінен адбыцца сход жыхароў згаданых дамоў, дзе будуць узнятыя ўсе гэтыя надзённыя пытанні.

Сітуацыя вымагае ізноў вярнуцца да гэтай тэмы.



## *Віншаванкі*

*Вольгу Мурзіч і Андрэя Янусева*

**Віншуем з днём вяселля!**

Дарагія нашы Волечка і Андрэй, з Днём вяселля Вас!
Мы желаем Вам всегда
Весны в душе – зимой и летом,
Улыбок, счастья и добра,
И чистых утренних рассветов.
Любовь пусть будет чиста,
Как росинка весной,
И по жизни пройдите
С любовью чистой, верной, одной.
Будзьце шчаслівыя!



*Мама, тата, брат Жэня, сястра, бабуля, хросная цёця Дана.*

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»




ВЯСЕЛЬНЫ САЛОН АЗАЛІЯ
- Пракат вясельных, вячаровых і дзіцячых строяў.
- Аксесуары бясплатна.
- Кольцы на аўто.
- Кожнай нявесце - падарунак




## ПАНЯДЗЕЛАК, 13 жніўня



**06.00**, **07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** Новости.
**07.05**, **08.05** Зона Х.
**07.30**, **08.30** Деловая жизнь.
**09.10** В центре внимания.
**10.05** Время Союза.
**11.00** «Встань и иди».
**12.10** **«Маргоша»**
**14.05** Мультфильм **«Баранкин, будь человеком!».**
**14.25** «Браслаўшчына. Край Божай апекі».
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25** «Александр Барыкин. Разорванное сердце».
**16.15** Премьера. «Причудливые миры» (США-Южная Корея). 1-я серия.
**17.15** **«Маруся. Возвращение»**
**18.15** Арена.
**18.45**, **23.35** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** **«Сваты-5»**
**21.00** Панорама.
**21.45** **«За все тебя благодарю-2»**
**22.45** **«Доктор Хаус-6»**. Заключительная серия.
**00.05** День спорта.
**00.15** Мелодрама **«Психоаналитик»**



**06.00, 08.30** Наши новости.
**09.00** Наши новости (с субтитрами).
**06.05** ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Капитан Гордеев»**
**12.05** **«Сердце Марии»**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Хочу знать».
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10** **«Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Эдриан Броуди, Пенелопа Круус в мелодраме **«Манолете».**
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Спецплан «Анадырь». Тайны Карибского кризиса».
**19.05** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Андрей Руденский, Валерия Ланская в многосерийном фильме **«Дом образцового содержания».**
**22.15** ОНТ представляет: «Тема дня».
**22.25** **«Закрытая школа»**
**23.30** «Выход в астрал. Непридуманные истории».
**00.30** «На ночь глядя».
**01.10-01.40** Ночные новости.





**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Военный детектив **«Покушение»**. 1-я с.
**10.05** Лондон-2012. Торжественная церемония закрытия Олимпийских игр.
**13.10** **«Кортик»** 1-я серия.
**14.40** **«Мужчина во мне»**
**15.45** **«Гуманоиды в Королеве»**
**16.50** Белорусское времечко.
**17.50** Военный детектив **«Покушение»**.1-ясер.
**18.55** Мюзикл **«Девушки мечты»** (США).
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** **«Гуманоиды в Королеве»**
**22.30** **«Мужчина во мне»**
**23.20** Комедия **«Я так ненавижу свою работу»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** **«Нина»**. Сериал. Заключит.серия.
**13.30** «24 часа».
**13.50**«Центральн.регион».
**14.20** «Звездный ринг».
**15.15** Концерт Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Умножающий печаль»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.40** **«АМЕРИКАНСКАЯ ДОЧЬ»**..
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Тайны мира с Анной Чапман».
**23.50** «Адская кухня».



**7:00** Размовы эксперта
**7:15** Англійская для дзяцей
**7:20** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра»
**7:35** **«Піпі Доўгаяпанчоха»**: 19 і 20 серыі
**8:30** **«Мой родны горад»**: 20 серыя
**8:55** Басанож па свеце
**9:20** Дак.гадзіна: «Пiянеры зменаў. Бразiлiя»
**10:15** Euromaxx
**10:45** **«Каралева Бона»**: 10 серыя
**11:40** «Дваццаць першая секунда»
**12:45** Форум (ток-шоу)
**13:35** Кружэлка
**14:05** **«Арол: крымiнальная сага»**: 20 серыя
**15:00** **«Малая Масква»**: 1 серыя
**15:50** **«Доўгі ўік-энд»**, камедыя
**17:05** Дак.гадзіна: «Пiянеры зменаў. Бразiлiя»
**18:00** Аб'ектыў
**18:10** **«Час гонару»**: 41 серыя
**19:00** Аб'ектыў
**19:10** Басанож па свеце
**19:35** Англійская для дзяцей
**19:45** Калыханка для самых маленькіх: «Сцэны з жыцця цмокаў»
**20:00** Аб'ектыў
**20:10** Еўропа сёння
**20:35** Размовы эксперта
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Гісторыя – на вакацыі: «Каўчэг», дак. фільм, рэж. Андрэй Куціла, 2010 г., Беларусь
**22:00** Фільматэка майстроў: «Блізкія незнаёмцы»
**23:45** Аб'ектыў
**0:10** Лета з дэтэктывам: **«Афіцэры»**: 8 серыя
**0:55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы

